УДК 008
ББК 71.05
Я44

Выдаецца на сродкі
Міжнароднага дабрачыннага фонда
«Стваральны свет».

**Якавенка, В. Ц.**

Я44 Як знайсці духоўнасць і гармонію ў грамадстве / Васіль Якавенка. – Мінск : Тэхналогія, 2015. – 47 с.

ISBN 978-985-458-264-1.

Аўтар даследуе тэму гарманічнага развіцця этнасаў, нацый у суверэнных дзяржавах, разглядае ўмовы для далейшага росквіту або, наадварот, заняпаду, дэградацыі і знікнення еўрапейскай цывілізацыі.

Друкуецца калектыўны зварот, падрыхтаваны аўтарам у 2012 годзе і накіраваны ў дзейныя еўрапейскія структуры. У звароце – абгрунтаваная крытыка сучаснай еўрапейскай ліберальнай палітыкі ў развіцці краін. У якасці сімвала найвышэйшых гістарычных дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі прапануецца стварыць велічны Музей гісторыі і культуры Еўропы.

Тэкст звароту падаецца на беларускай, рускай і англійскай мовах.

**УДК 008**
**ББК 71.05**

**ISBN 978-985-458-264-1**

*Думка напісаць гэты артыкул узнікла ў мяне пад час навуковай канферэнцыі «Даўгірдаўскія чытанні-IV», праведзенай у траўні 2013 года Інстытутам філасофіі НАН Беларусі, дзе я выступаў са спецыяльным дакладам пра жыццё і навуковую дзейнасць М. І. Крукоўскага. І вось цяпер пішу, адштурхоўваючыся ад навуковых прац М. Крукоўскага, Л. Яўменава, В. Пазнякова, А. Рагулі, К. Хюбнэра, К. Яспэрса, Э. Сміта, В. Гумбальта, К. Лявонцева, а таксама сваіх ранейшых назіранняў і разважанняў.*

# 1.
# Прысвячэнне. М. І. Крукоўскі (1923–2013)

У маім жыцці былі два філосафы, якіх я без асаблівага напружання мог зразумець, якім я аддаваў перавагу і асабліва цаніў, – гэта немец Вільгельм Гумбальт і беларус Мікола Крукоўскі, гуманісты розных эпох, далёкія па часе адзін ад аднаго і тым не менш блізкія мне, бо адказвалі на мае запыты да навукі на тэмы культуры, мовы і нацыянальнага развіцця. У тым, першым вучоным, захапляла глыбокае веданне лінгвістыкі, разгляд яе ў дынаміцы, у сацыяльным, культуралагічным і філасофскім плане, даступнасць мовы. Сам Гумбальт разумеў мову народа не як нешта аднойчы злепленае і застылае, а як бесперапынны працэс духоўнай творчасці, «фарміравальны орган думкі», без якога ў народа няма ўласна свайго светаўспрымання. Найвышэйшы духоўны ідэал вучоны бачыць у абуджэнні цэласнага душэўнага свету чалавека ў адзінстве з яго творчымі здольнасцямі. А вось гармонію – у паўнаце раскрыцця фізічных і духоўных сіл кожнага.

Як можна меркаваць хоць бы па гэтым, Гумбальт усутыч падыходзіць да закона *развіцця* ўсяго жывога і існага, у тым ліку сацыяльных структур. Гэты ж універсальны закон, сфармуляваны Канстанцінам Лявонцевым, даводзіць, што развіццё ідзе ад простага да складанага, ад аднастайнага да шматаблічнага, ад шэрага да квяцістага, а вось гармонія развіцця – у **адзінстве разнастайнасці**, да прыкладу, моваў і культур. Без разнастайнасці свет блякне, у ім набывае свае прыярытэты шэрасць, спакваля ідзе распад і гібель таго, што ў суквецці радавала.

Да Міколы Крукоўскага гэтыя ісціны дойдуць як бы самі сабой. З кніжных крыніц ён, дарэчы, пачэрпне нямала. Адно няможна з пэўнасцю сказаць: што больш – кнігі ці жыццё людское – зрабіла яго шматгранным нацыянальным філосафам, такім менавіта, якім ён склаўся?

Мікалай Ігнатавіч Крукоўскі, перш чым стаць філосафам, багата чаго зведаў у жыцці. Яшчэ будучы маладым чырвонаармейцам, апынуўся ў нямецкім палоне, збег адтуль і, прыхапіўшы таямнічы для яго томік Гегеля ў заплечнік, рушыў у партызанскі атрад, які дзейнічаў пад Оршай. Быў паранены. Гегель, трапіўшы пад руку, няйначай быў падараваны яму самім лёсам, – праўда, тады нішто пра гэта не гаварыла; аднак гегелеўскі томік стаўся знакавым, бо ў сталыя гады, будучы ўжо кандыдатам філалагічных навук, Мікалай Ігнатавіч акурат і вернецца да Гегеля, да філасофіі, будзе даследаваць і развіваць шчыра, кампетэнтна і плённа гегелеўскую эстэтыку.

Уражвае разнастайнасць інтарэсаў, заняткаў, захапленняў, з якімі Мікола Крукоўскі ішоў па жыцці. Юнаком ён марыў стаць музыкам, па-заліхвацку іграў на гітары і мандаліне, а стаўшы пасляваенным студэнтам універсітэта, спяваў (разам з жонкай) у хоры Вялікага тэатра оперы і балета, любіў праводзіць летні адпачынак у вандроўках на яхце па рэках і азёрах роднай Беларусі (выпраўляўся ў падарожжа звычайна з сям’ёй), ахвотна хадзіў на лыжах і займаўся плаваннем. Апроч яхты займеў свой тэлескоп і нярэдка ўзіраўся ў зорнае неба. Упрыгожваў сцены сваёй кватэры ўласнымі малюнкамі, пачаўшы з нацюрмортаў. Ужо ў рангу прафесара выкладаў ва ўніверсітэце філасофію на роднай беларускай мове, хоць у тых палітычных варунках гэта не ўхвалялася і пагражала яму звальненнем з працы.

Вось у такой іпастасі шматгранна адоранага, актыўнага, неспакойнага душой, адданага сваёй зямлі і Айчыне чалавека, які жыў паўнацэнным і цікавым жыццём, дыхаў грудзьмі напоўніцу, меў лагодны і адначасова нязломны, валявы характар, рашуча адстойваў сваю лінію, пазіцыю ў любых умовах, ён і паўстае перад намі як даследчык прадмета філасофіі, культуралогіі, як праніклёны, глыбокі аналітык. Карціць адзначыць, што не выпадкова яму наканавана было стаць гаспадаром у пакінутым Гегелем хораме эстэтыкі і заняцца там вывучэннем і ўладкаваннем сістэм, метадалогіяй навукі – логікай эстэтычнага, да прыкладу, – азначэннем эстэтычных катэгорый і паняццяў. Ягоная першая буйная манаграфія **«Логика красоты»** («Навука і тэхніка», Мінск, 1965), напоўненая глыбокім, новым, яскравым зместам, напісаная добраю моваю, даступнаю для простага чытача, адразу па выхадзе з друку накладам 3230 асобнікаў, у лічаныя месяцы разышлася і паставіла аўтара ў шэраг вядомых у навуковым свеце філасафаў.

Аднак не абышлося без кур'ёзаў. Нехта Е. Ануфрыеў, кандыдат філасофскіх навук, пазнаёміўшыся з гэтай неардынарнай кнігай і не ўцяміўшы, што там да чаго, адчуў раздражненне і тут жа выліў яго ў з'едлівай фельетоннай форме – «**С точки зрения норм лошади**», такая нататка з'явілася ў вялікай на той час «Литературной газете». Можна сказаць, што гэта была першая «рэцэнзія» на першы буйны навуковы твор М. Крукоўскага. Ганьба! І вырашыў тады абараніць маладога і таленавітага філосафа вядомы беларускі вучоны, доктар філалагічных навук Міхась Ларчанка.

> *«А что если не фантазировать, не куражиться, а дать себе труд внимательно вчитаться в текст книги и попытаться проследить за логигикой рассуждений автора?* – пісаў ён у «Литературную газету». *– В книге Н. Крюковского действительно в новом аспекте рассматриваются многие коренные проблемы эстетики. В ней, по сути дела, помимо теории и истории искусств, столь детально исследуются в эстетическом плане данные весьма важных для эстетики областей знания – колористики, акустики, учения о пространственно-временных формах действительности, антропометрии, социологии. Кстати и человек, вопреки домыслам автора реплики, предстает у Н. Крюковского как высший эстетиче-*

*скій объект в его сложном диалектически противоречивом единстве чувственного и рационального, субъективного и объективного, индивидуального и социального. Все эти проблемы автор стремится изложить с последовательно единой точки зрения, именно, с точки зрения диалектических категорий общего и особенного».*

І далей:

*«Применение методов логического анализа, столь успешно зарекомендовавшего себя в различных областях науки, все еще кажется некоторым чуть ли не кощунством, когда речь заходит о более «деликатных» сферах эстетики»*[1].

Станоўчы водгук на «Логику красоты» – «работу глубокую и талантливую» прыйшоў з Масквы і ад В. Арлова, члена бюро секцыі эстэтыкі пры Прэзідыуме АН СССР.

Далейшыя гады і ўсё тая ж узмужнелая мудрасць даюць М. Круковскому магчымасць напісаць яшчэ шэраг манаграфій – **«Эстэтычныя катэгорыі»**, **«Кібернетыка і законы прыгажосці»**, **«Чалавек прыгожы»**, **«Філасофія культуры»**, **«Бляск і трагедыя ідэала»**. І гэтыя наватарскія працы толькі пацвердзілі і ўмацавалі думку пра навукоўца як пра неардынарнага і таленавітага беларускага мысляра, надзеленага самастойнай і неацэннай для навукі парадыгмай мыслення.

На самой справе, абапіраючыся на сусветную спадчыну і перш за ўсё на вяршыню нямецкай класічнай філасофіі – працы Гегеля і некаторых яго паслядоўнікаў, Крукоўскі спалучыў гегелеўскі паняццевы апарат з тэорыяй сістэм і сістэмнай генетыкай, кібернетыкай, семіётыкай ды іншымі галінамі. Атрыманая ў выніку такога спалучэння і асэнсавання сістэм канцэпцыя аўтара не мае падабенства ў свеце. Гэтым самым яшчэ раз даказаны як прадуктыўнасць дыялектыкі і эстэтыкі Гегеля, так і чынны досціп нашага філосафа. Па меркаванні ягоных калег, нельга не адзначыць арыгінальную методыку аўтара і асабліва тое, як ён ёю па-майстэрску карыстаецца пры аналізе дынамікі развіцця грамадства і яго культуры. Мікалай Крукоўскі ўрэшце выйшаў на канцэпцыю адзінства ідэальнага і матэрыяльнага – халізм – і на гэтай аснове

[1] Дакумент з сямейнага архіва М. Крукоўскага.

паказаў паўнату і цэласнасць свету, чаго дужа не стае чалавеку ў сучасную эпоху з яго матэрыяльным ўзбагачэннем, духоўнай пустатой і заняпадам маралі, перадусім прапагандай аднаполых шлюбаў. Згадваецца, з якім задавальненнем і годнасцю Мікалай Ігнатавіч падпісваў «Ліст у Еўропу», складзены намі з прычыны дэградацыі культуры і нораваў у асяродку еўрапейскай супольнасці (ён, гэты ліст не страціў сваёй актуальнасці і таму ўлучаны ў змест нашай брашуры).

Значэнне і веліч постаці вучонага неўзабаве засведчылі і некаторыя расійскія філосафы. Першы раз гэта было, калі ён у Маскве трыумфальна абараняў доктарскую дысертацыю, а другі раз – нядаўна, калі мы звярнуліся да расійскіх мысляроў з прапановай падрыхтаваць і выдаць ягоныя творы ў 5 тамах, – яны з радасцю ўхвалілі намер і ўвайшлі ў міжнацыянальную рэдакцыйную раду па падрыхтоўцы да друку спадчыны М. Крукоўскага. Такое выданне запланаванае ў Расіі на 2016 год. Дадамо, што з беларускага боку ў рэдакцыйную раду ўвайшлі філосафы Леанід Яўменаў, Эдуард Сарока, Аляксандр Лапцёнак, Аляксей Рагуля, пісьменнік Анатоль Астапенка ды інш. Практычна мы выпускаем поўны збор філасофскіх твораў шаноўнага мысляра.

Гэты мой артыкул напісаны на тэму, якую мы з Міколам Ігнатавічам не абыходзілі, бадай, ні пры воднай сустрэчы, на тэму, якой з гаркатой душэўнай ён прысвячае нямала старонак у сваіх манаграфіях, асабліва апошняй – «Бляск і трагедыя ідэалу», – гэта тэма фармавання нацыі, яе лёсу! Адно ведаючы пра ягоную грамадзянскую і проста чалавечую годнасць, адоранасць, сціпласць і праведнасць духу, цяпер думаю, што меў справу з святым чалавекам.

# 2.
# Ад забыцця да адраджэння

Прыведзеныя ў загалоўку раздзела словы ўзятыя з кнігі «НАЦЫЯ» нямецкага філосафа Курта Хюбнэра. Аўтар бачыць у нацыянальнай ідэі, калі яна не страчаная, не выкінутая на сметнік постіндустрыйнага свету, – **адраджэнне** і далейшае духоўнае і культурнае развіццё народа.

Аднак дзіву даешся, чаго толькі ў Сеціве цяпер не нагароджана ў спробах патлумачыць, што ёсць «нацыя» або «нацыянальная ідэя». Прафесар Карнельскага ўніверсітэта Бэнэдыкт Андэрсан выдаў кнігу «Уяўныя супольнасці», у якой адмаўляе нацыям у рэальным існаванні; канструктывіст Бэнэдыкт лічыць іх хімерай, маўляў, «насамрэч існуюць толькі індывіды, якія рацыянальна разважаюць**,** а *нацыя* жыве ў іх галовах».

Па ўсім відаць, недалёка ад Андэрсана стаяць і аўтары запалітызаванай рэзалюцыі Дыялектычнага сімпозіума Сусветнага філасофскага форуму (Афіны, 29 верасня – 2 кастрычніка 2014 г.). Гэта яны, бяздумна ігнаруючы законы супольнага развіцця і «Усеагульную дэкларацыю аб культурнай разнастайнасці», прынятую ЮНЭСКО 2 лістапада 2001 года, заклікаюць грамадзян Зямлі супольна і персанальна атрэсціся ад усяго свайго, родавага, этнічнага, нацыянальнага, ментальнага і пераходзіць да Трансуніверсалізму, які трактуецца ўжо як панацэя ад усіх бедаў. Маўляў, ён, увабраўшы ўсё каштоўнае ад традыцыйных рэлігій, вераванняў, вучэнняў, філасофій і ідэалогій, а таксама Неагуманізму і Трансгуманізму, фармуе Усеагульную ідэалогію зямной людской цывілізацыі-ХХІ. Адзначым,

што падобная ідэя сінтэзу розных культур і моваў ужо была ў СССР, і гэта дабром не скончылася. Як відаць з матэрыялаў Дыялектычнага сімпозіума, размова ідзе пра тое, каб, адкінуўшы дасягнутае за многія стагоддзі чалавецтвам, стварыць з некалькіх наяўных цывілізацый адну трансуніверсальную і прышчапіць ёй неяк вылучаны ў лабараторыях філосафаў менталітэт. Ад гэтакіх канструктывісцкіх замахаў на векавечнае і святое ў народаў нам было б смешна (як што пустое), каб не іх намер стварыць неўзабаве Усеагульную Канстытуцыю Зямлі, Парламент Зямлі і, вядома ж, Урад адной адзінай Гіпердзяржавы!

Не сакрэт для зямлян, што асноўныя ідэі Рэзалюцыі дыялектычнага сімпозіума даўно б мусіла рэалізаваць Арганізацыя Аб'яднаных Нацый – арганізацыя, якая, трансфармаваўшыся, і ўзялася б выконваць функцыі парламента зямлян. Адно хтосьці і штосьці замінае ёй выйсці на належную для яе вышыню, і рана ці позна яна можа ператварыцца ў рудыментарны орган планеты. А ў канцэпцыі Трансуніверсалізму, можна сказаць, грунтоўна распрацаваныя пазіцыі і меркаванні па правядзенні ўсеагульнага навучання, асветы, прапаганды асноўных правоў і патрабаванняў да грамадзян Зямлі. Яно і добра, ды мэта сумнеўная.

Ідэя Глабальнага Грамадзянства не ў стане захапіць людзей, ідэнтыфікаваных у той ці іншай супольнасці, людзей, адданых сваёй зямлі і радзіме. А што да беларусаў, то калі яны беларусы не толькі паводле месца жыхарства, але і паводле складу душы, мяркую: ім больш даспадобы быць грамадзянамі не проста планеты, а перш, чуеце, роднага краю, і думаць і дбаць як пра маці-Беларусь, так і пра ўсю Зямлю. Прынамсі, ў гэтым жыццядайныя сэнсы.

У канцэпцыі Усеагульнай Дзяржавы і адзінай цывілізацыі варта было б як мінімум прадугледзець развіццё мноства розных і шматаблічных культур, а інакш у глабальнай стандартызацыі, у шаноўных амерыканскіх ці іншых, скажам, стандартах, у спрошчанасці, аднастайнасці, шэрасці – наша пагібель! І гэта даказана сусветным вопытам, даўно асэнсаваным філосафамі. Не выпадкова ж Курт Хюбнэр адзначае: *«Страта ідэнтычнасці вядзе да неўрозаў, а неўрозы, як вядома, не надта добрая аснова мірнага суіснавання»*[2]. І ён жа з трывогай адзначае, што еўрапейскія палітыкі пазбягаюць карыстацца словам «нацыя».

---

[2] Хюбнер, Курт. Нация. М.: Канон; ОИ «Реабилитация», 2001. С. 390.

Толькі, шаноўныя зямляне, ці не назіраем мы тут спробу арганізатараў Сусветнага філасофскага форуму і Дыялектычнага сімпозіума легалізаваць пэўным чынам той Сусветны Урад, якому, прынамсі, напляваць на ўсе культуры і менталітэты народаў (вядома, калі гэты Урад існуе)? А калі не гэта ў іх галаве – усё адно – варта пазбегнуць падобнага глупства і небяспекі?..

Не ўступаючы ў спрэчкі, спынімся пакуль на агульнапрынятым і відавочным для нас: нацыі былі і ёсць – насуперак андэрсанам, нацыі склаліся і развіваюцца, і ў іх заўжды найвышэйшы дух народа. Нацыя – гэта народ, які дасягнуў ці дасягае вышынь у сваім гістарычным, культурным і духоўным развіцці. Так, нацыя – гістарычна ўтвораная ўстойлівая супольнасць людзей, якая ўзнікла ва ўлонні агульнай тэрыторыі, мовы, гаспадарчага і эканамічнага жыцця, самаўсведамляе сябе і мае поспехі ў развіцці самавітай этнічнай культуры, фармуе на аснове матэрыяльных і духоўных запатрабаванняў нацыянальныя інтарэсы. Для большасці нацый характэрнай дамінантай з'яўляецца дзяржава, якая забяспечвае патрэбы нацыі, бароніць яе, служыць паспяховаму яе развіццю, чаго этнасы і народнасці звычайна не маюць. Нацыя разумеецца як цэласнасць, паводле Хюбнэра *«нацыя як агульны лёс»*[3], і вызначаецца яна сваёй гісторыяй. Ужо ці не таму згуртаваная нацыя з сваёй мовай, надзеленай духоўным дыханнем і іншымі характэрнымі прыкметамі, сама па сабе моцны арэшак для ворагаў. *«Нацыя, паводле логікі рэчаў, уяўляе сабой індывідуальную гістарычную культурную форму са своеасаблівым гістарычным лёсам, які, як і лёс канкрэтна ўзятай гістарычнай асобы, можа быць перададзены на словах»*[4], – выказваецца зноў жа Хюбнэр.

Паспрабуем цяпер адкрыта і шчыра паразважаць пра найбольш важнае і надзённае, што даўно паўстала і востра стаіць перад нашым беларускім народам як неабходнасць – ратаваць і ратаваць сябе ў нацыянальнай супольнасці, у суладдзі, берагчы ідэнтычнасць, звычаі, менталітэт, мову, культуру, старанна жывіць і развіваць творчы і наогул стваральны імпэт.

Будзем зыходзіць з таго, што Нацыя ёсць суб'ект, які сваёй прысутнасцю ў дзяржаве ўплывае на грамадзянскую супольнасць,

---

[3] Хюбнер, Курт. Нация. С. 52.

[4] Тамсама.

а праз яе – і на дзяржаўны апарат, які мы проста будзем называць Дзяржавай.

Я ведаю: тое, што стаіць за гэтыя словамі, дойдзе далёка не да кожнага розуму, не да кожнага сэрца, і таму, каб даць найбольш поўнае ўяўленне аб прадмеце гаворкі, мы звернемся да параўнання. Паставім у думках перад сабой два словы-паняцці – Народ і Нацыя. Яны блізкія па значэнні. Больш за тое– імі часам карыстаюцца як сінонімамі. Тым не менш, калі метафарычна ўявіць іх, скажам, як своеасаблівыя збудаванні для жыхароў і надаць ім знакавую сутнасць, якую для гэтакіх формаў і паняццяў прадугледзела матухна-прырода, то між гэтымі формамі, іх падабенствам, іх роднасцю стане відавочнай і вялікая розніца.

Прынамсі, першую форму мы павінны пакінуць без усялякай адмысловай надбудовы, скажам, без традыцыйнага даху, бы тыя дамы-хрушчоўкі. Дамовімся, што за гэтым збудаваннем стаіць Народ, тым часам як другое наша збудаванне ўжо вымагае гожага даху, які хутчэй за ўсё завершыцца купалам, і тады ўсё тут, узятае разам, і будзе адпавядаць азначэнню Нацыя. Само сабой, гэтая рэч натуральна ператворыцца з дома без даху ў гожы храм, вялікі ці малы, у сталы прытулак, дзе месціцца ды вольна жыве самавіты народ, а з ім і дух ягоны.

Адухоўленае жыццё Народа матэрыялізуецца ў дыялектычна супярэчлівым і бясконцым развіцці ўласнай гісторыі, культуры, мовы, веры, еднасці псіхічнага стану, традыцый, і ўсё гэта – складнікі Нацыі.

Не пазбаўленыя падстаў меркаванні, што Нацыі пачалі спакваля фармавацца яшчэ з біблейскіх часоў і нават раней. Мяне ж не пакідае думка, падтрыманая і філосафамі М.Крукоўскім, А.Тойнбі, што ў Вялікім Княстве Літоўскім у Сярэднявеччы, асабліва пасля Грунвальдскай бітвы, паспяхова фармавалася Нацыя ліцьвінаў, як на сёння – продкаў беларусаў, і на гэты конт Тойнбі пісаў: *«Часовая палітычная магутнасць Літвы як рэакцыя на крыжовы паход тэўтонскіх рыцараў знайшла сваё адлюстраванне ў геральдычнай эмблеме Літоўскай дзяржавы: коннік і конь у латах. На здзіўленне і поўную разгубленасць тэўтонскіх рыцараў, гэты варвар у латах даскакаў да іх уладанняў, каб канчаткова разбіць іх у бітве пад Таненбергам»*[5].

[5] Цыт. паводле: Крукоўскі, М. Бляск і трагедыя ідэалу. Мн.: Беларускі кнігазбор, 2004. С. 337

Шмат нацыястваральных складнікаў сведчаць нам пра ўтварэнне нацыі беларусаў у Сярэднявеччы, а гэта і агульная гісторыя, тэрыторыя, і адзіная дзяржаўная мова, культура, традыцыі, менталітэт, які захаваўся да сёння; а да ўсяго дадайце сацыяльна-прававы Статут Вялікага Княства – легенду краіны, паводле значэння, прыярытэту, гожасці яго хіба льга параўнаць з Крыжам Ефрасінні Полацкай.

Але, вяртаючыся да нашага прыкладу, замацуемся на думцы: Народ фізічна мае амаль тыя самыя «цела» і «масу». Народ займае тую самую прастору на зямлі, што і Нацыя, адно ўяўляе сабой параўнальна штосьці менш дасканалае ў сваёй сукупнасці, больш прыземленае, прыгнобленае, даруйце... У той час як Нацыя – гэта ўсё-ўсёсенькі, ўзятае разам з тым, што сягае ўгору. А яе духоўныя скарбы – бляск!

Нацыя – мовай вышэйшых матэматычных вылічэнняў – няйначай, мае чацвёртую каардынату, а менавіта – дух, самадастатковы дух народа, апроч тых трох вымярэнняў у фізічнай прасторы, у якіх бытуе грамада.

Скажам і так: Нацыя – гэта народ, які ў калаўроце часу не пазбыўся сваёй духоўнай культуры, гісторыі, мовы... «Пад нацыяй, фігуральна кажучы, – зазначае М. Крукоўскі, – мы маем яшчэ магутны падмурак, што называюць звычайна этнасам і што сваімі глыбіннымі апорамі ўваходзіць і ў антрапалагічную глебу, якая мае ўжо антрапалагічна-расавы характар»[6].

У ідэале Народ і Нацыя – гэта адно і тое. Народ сталее і нязмушана развіваецца ў Нацыю. Таму словы нацыя, народ і прырода блізкія не толькі сэнсам, але і сваім паходжаннем, што зусім відавочна. У слоў «народ» і «прырода» (агульны корань «род...»), а словы «народ» і «нацыя» гэтак жа лінгвістычна ўзаемна суадносяцца. Лацінскае natio (таксама «народ») нітуецца з лацінскім nascere «нараджацца», natus «народжаны», як і «прырода – natura» (тут і там той самы корань nat-). Разыходжанні ў значэнні слоў Народ і Нацыя, напэўна, адбыліся ў ходзе гістарычных дысанансавых і разбуральных працэсаў, на якія сёння натхняе сваіх выхаванцаў у Англіі прафесар Бэнэдыкт Андэрсан.

Самое азначэнне *«нацыянальнае»* ў дачыненні да іншых знакавых адзінак, напрыклад, *культура, дзяржава, герб, сцяг, памяць, мова,* прадугледжвае наяўнасць пэўнага зместу ў самім асяродку

[6] Крукоўскі, М. Бляск і трагедыя ідэалу. Мн.: Беларускі кнігазбор, 2004. С. 141.

грамадства як стрыжня, які звычайна называюць нацыянальнай ідэяй. І не варта даказваць, што без яе – лёсавызначальнай ідэі – немагчымым было б ні самаспазнанне, ні самавызначэнне народа. Невыпадкова вялікі Я. Купала ў XX стагоддзі першапачатковую задачу бачыў у самарэалізацыі беларускай нацыі, у прызнанні светам яе ідэнтычнасці і непрымірэнча ставіўся да яе ворагаў:

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб тэй мове,
Якой азваўся беларус?

У Курта Хюбнэра: «Мова – гэта *медыум,* у якім рухаецца ўсялякі нацыянальны дух»[7]. Не разыходзіцца тут з немцам Хюбнэрам і наш Крукоўскі. Паводле яго меркаванняў, нішто так не аб'ядноўвае людзей, як наяўнасць ўсім зразумелай і аднолькава ўсімі адчуванай з пялёнак мовы.

Ці не паразумелася ўжо кіраўніцтва нашай краіны з гэтым пастулатам? Хоць бы на трэцім дзясятку гадоў суверэнітэту!.. Бо, думаецца, не выпадкова ж кіраўнік дзяржавы А. Лукашэнка, выступаючы з чарговым пасланнем народу і Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь, зазначыў: *«Вялікая руская мова будзе развівацца ў Беларусі таксама, як і наша родная беларуская мова. Калі мы перастанем гаварыць па-руску, мы страцім розум. Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове, мы перастанем быць нацыяй»*[8].

А ў Янкі Купалы скруха па сваім, нацыянальным з асаблівай сілай загучала ў п'есе «Тутэйшыя», якую неаднойчы ставілі на купалаўскай сцэне ў Мінску і неаднойчы забаранялі; што праўда, гэтая тэма жыла ў ягоных вершах і клопатах пра беларусаў ад самага пачатку літаратурнае творчасці:

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
– Людзьмі звацца!

Адно сёння на этнічным рубяжы, на які выйшаў Купала, працуе ўжо і беларуская філасофская думка. Прафесар Валер Пазнякоў слушна адзначае, што нацыянальна-этнічная самаідэнтыфікацыя, самаспазнанне *«акрэсліваюцца пастаянствам асэнсавання свай-*

[7] Хюбнер, Курт. Нация. С. 341.
[8] Наша Ніва. 2014. 23 траўня.

*го мінулага ў цеснай сувязі з цяперашнім часам»*[9]. Менавіта тут, на скрыжаванні мінулага з новым часам, і пачынаюцца вытокі духоўнай сілы самога народа. Духоўнасць узбагачаецца і пашыраецца нацыянальнымі скарбамі, да якіх льга аднесці менталітэт і характар, гістарычную памяць, мелодыку спеваў, святы і абрады, распаўсюджаную і развітую вусную народную творчасць. Дарэчы, мова, у якім бы абліччы яна ні ўспрымалася, заўжды пазначана адметным духоўным водарам, этнічным дыханнем. Як, зрэшты, і высокамастацкая патрыятычная літаратура – творы нашых класікаў і тых, хто годна пераняў ад іх эстафету, – Мележа, Танка, Караткевіча, Быкава... Духоўнасцю дыхаюць найлепшыя ўзоры іншых відаў мастацтва, усё, што служыць самаспазнанню народа, без чаго цяжка ўявіць Этнас і Нацыю.

Нацыя склалася! На розных этапах свайго станаўлення яна адлюстроўвала свой багаты досвед у класічных формах, цалкам прыдатных для шырокага ўжытку ў сацыяльным і культурным жыцці – не толькі ў выглядзе прыказак, прымавак, сентэнцыяў, але і ў формах прававой культуры – Статута, Уставы, Закона... Гэтым ліцьвінскім здабыткам карысталіся і нашы суседзі. Толькі ж гэта не значыць, што класічныя каноны развіваюцца і жывуць самі па сабе – над імі заўсёды вісіць пагроза разбурэння. І, калі Нацыя аднойчы заявіла пра сябе, то ўжо без шчырага клопату пра яе росквіт сваіх жа грамадзян яна марнее, буцвее. І тады бурыцца вабны высокі дах, увенчаны купалам, і няўтульна робіцца няўцямнаму люду, бы з неба кожнаму за каўнер капае; самавіты і багаты на праявы розных граняў жыцця народ спакваля ператвараецца ў шараговае, без выразнага твару, насельніцтва; што і казаць, люд годны, разумны, як і раней, адно не знаходзіць, на што душой абаперціся, а чарка і скварка, пра якую з пераменным поспехам дбае з году ў год вертыкаль, не аб'ядноўвае, не ўздымае душы, не развівае высакародных пачуццяў, тым больш што яны, пачуцці, змардаваныя мінулымі дзесяцігоддзямі.

Дзіва, праз якія нягоды прайшла, усталёўваючыся, наша ліцвінска-беларуская супольнасць! 200 гадоў мардавання рознымі чыннікамі з усходу і захаду, прычым амаль кожныя 30 гадоў – вынішчэнне адроджанай беларускай эліты. Вобраз беларуса ма-

---

[9] Пазнякоў, В. Этнанацыянальная культура: праблемы самабытнасці // Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі. Мн., БелСаЭС «Чарнобыль», 2003. С. 128.

лявалі то лапцюжнікам з каўтуном у валасах, то лесавіком, абражалі яго высокадасканалую мову, называлі яе мужыцкай, саміх жыхароў абражаюць дагэтуль, называючы пагардліва «бульбашамі» і нават гарэлку для нас прыдумалі пад назвай «Бульбашъ». Жахліва! А цяпер – новая небяспека, для якой у сваім мінулым нават падобных прыкладаў не прыгадаеш: САМАЛІКВІДАВАННЕ... Праўда, ці з сваёй волі мы гэта робім? Прынамсі, тэндэнцыя няпэўная. І разам з тым яскравая: толькі 15–16 адсоткаў дзяцей цяпер вучацца па-беларуску. Беларусь штогод прымае ўсё большую колькасць чужародных гастарбайтэраў, і неўзабаве з'явяцца кітайскія правінцыі. Магчыма, і ўкраінскія... Далібог, гэта не можа шыкаваць настрой у грамадстве. Трапнымі словамі таго самага нямецкага філосафа паўторым: *Страта ідэнтычнасці вядзе да неўрозаў...*

Жалю варта, але толькі карціна, намаляваная тут схематычна, – не прыдумка. І, трэба меркаваць, па наперад выпрацаванай схеме ідзе «развіццё», якое дарэшты вымывае з самога паняцця Нацыі ўсялякія сэнсы. Пра нацыянальнае будаўніцтва і размовы няма. Наадварот, поўным ходам разбураецца раней створанае – нацыянальная адукацыя, іншыя нацыянальныя інстытуцыі, духоўныя каштоўнасці, якія звычайна ўтвараюць залаты купал над суверэннай краінай. Ужо гучаць галасы дэнацыяналізатараў, маўляў, і Акадэмія навук, і Інстытут філасофіі – рэчы, нам не патрэбныя! Непатрэбнаю стане і пасада прэзідэнта...

Цяпер паспрабуем паказаць і развіць нашы неспакойныя думкі схематычна. Зазначым, што тут у нас будуць фігураваць умоўна тры субстанцыі – Нацыя, Народ і Улада, якая заўжды прадстаўляе інтарэсы Дзяржавы і нярэдка выступае яе сінонімам. У азначэнні Дзяржавы як такой, уласна, думкі розняцца. У савецкія часы люду афіцыйна даводзілі, што дзяржава ёсць апарат прыгнечвання, у арыгінале – «подавления» аднаго класа другім (У. І. Ленін). І ўжо, у адпаведнасці з гэтакай вынаходкай розуму, у палітыцы СССР ад самага пачатку быў закладзены дзяржаўны тэрарызм: падаўлялі і падаўлялі народ на ўсе бакі... Нападаўляліся: у вёсцы, напрыклад, без спадчынных руплівых, гаспадарлівых сялян зямля стала ператварацца ў пустку, быллём яна зарастае, асабліва ў Расіі.

Аднак В. Ф. Гегель меў больш гуманныя ўяўленні пра Дзяржаву: *«Дзяржава ёсць рэчаіснасць маральнай ідэі – маральны дух як відавочная, сама сабе зразумелая субстанцыйная воля, якая мысліць*

*і ведае сябе і выконвае тое, што яна ведае і пакольkі яна гэта ведае»*[10]. З Гегелем, дарэчы, у меркаваннях пра дзяржаву не надта разыходзіліся К. Маркс і Ф. Энгельс. Аднак згадаем тут і пра сваё, беларускае. Няйначай у адпаведнасці з духам апераджальнага развіцця, які наогул быў уласцівы нашым продкам, у XVI стагоддзі была створаная ды, як вядома, дзейнічала амаль да сярэдзіны XIX стагоддзя тая ж маральная, бо ўлічвала звычаёвае права, і глыбока дэмакратычная, як што адпавядала інтарэсам усіх сацыяльных групаў і катэгорый насельніцтва, канстытуцыя ў форме **Статута Вялікага Княства Літоўскага**.

Вялікае Княства сапраўды было *«**рэчаіснасцю маральнай ідэі**»*. Але ж не сакрэт, што і такая дзяржаўная структура, ці проста дзяржава, паводле Хюбнэра, *«мае патрэбу ў нітавальных сілах нацыянальнай свядомасці»*[11].

Акрэслім на паперы рамку, у якой умоўна размяшчаюцца нашы суб'екты з ўсёю сваёй прасторай, што геаграфічна і духоўна закладзена ў падмурак Дзяржавы (***мал. 1–3***).

Паводле сцверджанняў філосафа Леаніда Яўменава, чалавек з нерэалізаванымі або неразвітымі, збедненымі правамі, якія імкнуцца практычна да сваёй адсутнасці, уяўляе сабой нешта такое, што не мае стану асабістай адказнасці і не нясе на сабе абавязкаў, наадварот, з'яўляецца ў стане нарастання сацыяльнай пасіўнасці і штодзённай агрэсіўнасці – распаду, дэградацыі. Да тэмы нашае размовы якраз ода Янкі Купалы, прысвечаная вольнаму духу як ёсць. Аднак жа – ці выпадкова? – у загаловак верша аўтар выносіць пытанне «Чаму?»

Няма для духа вольнага граніцы, меры,
Дзе б ён сягнуць не смеў, дзе б ён не узлунаў;
У хаосе быцця, у цьме сусветных з'яў
Ён не ніштожыцца, ў сябе не губіць веры.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Магутны, векавечны, створан з сонц мільёнаў,
Гром, перуны ў руках спыняць не слаб,
Хоць бы ў агні кіпеў, ў віхрах марозаў зяб…

Аднак чаму ж ты там нішто, дух непрыгонны,
Дзе дружна звонячы ў кайданы ўсімі тоны,
Крывёй, пажарамі частуе раба раб?

---

[10] Гегель, Вильгельм Фридрих. Философия права. М.: Мысль, 1990. С. 524.

[11] Хюбнер, Курт. Нация. С. 381.

## ДЗЯРЖАВА І НАРОД

Варыянт гета: народ адарваны ад нацыі




***Мал. 1.*** У аснове схемы знаходзіцца субстанцыя Народ. Па вертыкалі ўздымаецца Улада, яна і сімвалізуе Дзяржаву. Нацыя з тых ці іншых прычын адсутнічае (нацыянальныя духоўныя каштоўнасці з нейкай прыхамаці, верагодна, адсякаюцца ўладаю). Народ ізаляваны ад духоўных скарбаў, ад сваёй гісторыі, мовы, культуры, і гэта зыначвае ды памяншае ягоныя сілы. Паміж Народам і Дзяржавай складваюцца адно гарызантальныя (сацыяльна-вытворчыя) дачыненні, грамадзянская супольнасць прыгнобленая, духоўная сфера спляжаная. Нішто не перашкаджае вертыкалі з розных узроўняў ціснуць на Народ. Урэшце на малюнку, як і ў жыцці звычайна, складваецца інфраструктура гета. Паводле гэтай схемы, пра гарманічныя дачыненні двух суб’ектаў – Народа і Дзяржавы, якія па-рознаму адышлі ад спадчынных нацыянальных каштоўнасцяў, гаварыць не выпадае.

Якраз далей (***мал. 2***) да месца будзе падаць словы філосафа М. Крукоўскага пра тое, што ў пэўных умовах сацыяльны і духоўны бакі дасягаюць той ступені развіцця, калі яны *«становяцца здольнымі па-свойму ўраўнаважваць біялагічную прыроду чалавека, ураўнаважваць яго цялесны бок. Калі параўнаць дзеянне біялагічнага субстрата ў чалавеку з сілаю цяжару, а яго сацыяльны бок,*

**НАЦЫЯ, НАРОД І ДЗЯРЖАВА**
Варыянт гармоніі




***Мал. 2.*** Тут Народ і Дзяржава ўступаюць у парытэт з нашым умоўным, але існым суб’ектам – Нацыяй. Прычым, у Народа з Нацыяй дачыненні сваяцкія, простыя, у ідэале – шчыльныя. А вось Дзяржава з Нацыяй паўсюль мае зносіны апасродкаваныя – праз Народ, а калі сказаць больш канкрэтна – праз грамадзянскую супольнасць, якая развіваецца і паўстае з Народа. Вышэй ляжыць духоўная сфера, духоўная культура, непаўторная, адмысловая па сутнасці, бо належыць яна менавіта гэтай непаўторнай Нацыі і Дзяржаве. Верхні элемент малюнка дзейнічае рэзанансава і прыўздымае Народ да самаўсведамлення і самаідэнтыфікацыі, да ўтварэння актыўнай грамадзянскай супольнасці і праз яе – да парытэту Народа з Дзяржавай. Гарызантальнымі ды іншымі лініямі паказаны стасункі суб’ектаў між сабой. У гэтым выпадку, нягледзячы на розныя супярэчнасці, якія паспяхова пераадольваюцца, у грамадстве і Дзяржаве ўтвараецца варыянт гармоніі. Шанцы на поспех, сілу і моц усіх суб’ектаў павышаюцца.

**НАЦЫЯ, НАРОД, ДЗЯРЖАВА**
Варыянт партнёрства і гармоніі




***Мал. 3.*** На схеме мы бачым парытэт усіх трох іпастасяў, і не выпадкова яны стаяць роўна; тут паказана, якое месца і вагу павінны займаць пры перапляценні інтарэсаў, пры гарманічных партнёрскіх стасунках Нацыя, Народ і Дзяржава. Гарманічныя дачыненні гэтых трох суб'ектаў паказваюць на раўнавагу, прыгажосць і шчаснае жыццё грамадства.

*ягоную сацыяльнасць і духоўнасць, з нейкай уздымальнай сілай, то гэтая апошняя дасягае цяпер такой ступені інтэнсіўнасці, што становіцца здольнай процістаяць сіле цяжару і ўтрымліваць чалавека ў стане самастойнага палёту»*[12].

Апошнімі гадамі ўсё часцей пачалі з'яўляцца публікацыі, у якіх замежныя госці, звычайна турысты, раяць беларусам больш рашуча захоўваць сваю ідэнтычнасць, адметнасць натуры, характару і, зразумела ж, культуры. Вось і аўстрыйскі журналіст Джозэф Гафл пасля наведвання Беларусі ў сёмы раз палічыў не лішнім адзначыць: галоўны скарб Беларусі – гэта яе жыхары, таленавітыя, добразычлівыя, кемныя. Ягоны заклік: берагчы

[12] Крюковский, Н. И. Человек прекрасный. Мн.: БГУ им. Ленина, 1983. С. 287.

сваю культуру! І гэты заклік прагучаў для нас як папярэджанне: *«Вы не павінны даваць сябе прыніжаць,* – мовіў госць, – *трэба ўвесь час паказваць свету, што вы – самавіты, годны і здольны народ!»* (zautra.by).

Зусім відавочна, што свежым вокам турыст улавіў у нас, беларусаў, проста знакавую загану: недахоп нацыянальнай самасвядомасці, няўменне пачуваць сябе нацыяй! Адсюль і парады быць смялейшымі і прэзентаваць свету сваё, а не суседскае, не чужое. Замежнаму госцю проста няўцям, што наша дзяржаўная палітыка пакуль адлучае людзей ад сваёй роднай гісторыі і культуры, ад самавітых і цікавых для шырокага свету нацыянальных скарбаў, якія разам з тым з'яўляюцца крыніцай духоўнасці чалавека ў грамадзянскай супольнасці.

Неяк у Федэральнага прэзідэнта Германіі Яганэса Раў спыталі людзі старэйшага пакалення: «Скажыце, што мы павінны перадаць сваім дзецям?» І ён адказаў: *«Скажыце ім пра тое, што, выпраўляючыся ў іншыя краіны, важна мець радзіму ўнутры сябе. Таму што ў таго, хто не мае дома, не можа быць і суседзяў»*. А суайчыннік Раў – К. Хюбнэр у гэтым пытанні таксама не пакідае двухсэнсоўнасці, бо лічыць, што *«не толькі ідэнтычнасць асобы, але і ідэнтычнасць нацыі абарочваецца неабходнай умовай чалавечага суіснавання»*[13].

І апошняе, дужа прынцыповае, пра што хочацца сказаць. У развітых краінах свету сёння з правамі чалавека носяцца як дурань з маляванай торбай. У прынцыпе правы чалавека абарочваюцца непамысным індывідуалізмам. Пры гэтым не ўлічваецца дваістая прырода чалавека, калі ён з аднаго боку – персона, а з другога – непарыўная частка нацыянальнага цэлага, як што ідэнтыфікуецца ў соцыуме. Вельмі слушна адзначана Хюбнэрам, што *«канкрэтнае права чалавека ў супрацьлегласць абстрактнаму палягае ў свабодзе кожнага чалавека мець як сваё ўласнае, **так і** нацыянальнае быццё»*[14]. Я прыкідваў: у якім далёкім афрыканскім кутку магла б утварыцца яшчэ падобная нашай краіна? Аналагаў не было, як і гонару… Прыгадваліся адно запэўніванні, што мы ведаем іншы шлях, па якім ісці да поспеху ў развіцці краіны. Мы непаўторныя!

---

[13] Хюбнер, Курт. Нация. С. 390.

[14] Тамсама.

Мы самі загонім цвікі ў сваю дамавіну, а потым будзем сядзець на брацкай магіле, як на троне.

Шаноўныя-любыя суродзічы, жыццястойкія і кемлівыя беларусы, далібог, у нас нямала і такіх, – то ці не варта нам біць у званы, і гучна біць, ды рабіць штосьці пэўнае, да чаго змушаюць абставіны? Бо мы страчваем самае дарагое, што пакуль яшчэ ёсць у нас, – духоўную культуру як душу, а з ёй і сябе, і зямлю, палітую крывёю, і слаўную спадчыну, урэшце – Айчыну.

# 3.
# Ліст у Еўропу

Як працяг тэмы артыкула пра духоўнасць і гармонію ў грамадстве падаецца Ліст, які з подпісамі вядомых літаратараў і навукоўцаў Беларусі і Украіны быў адасланы кіраўніцтву Еўразвяза і Рады Еўропы, а копіі ліста – кіраўнікам некаторых еўрапейскіх краін. Адказу на сваю петыцыю мы не атрымалі, хіба што некалькі няўцямных словаў ад чыноўнікаў Бундэстага. Тым часам Ліст у пераказе «Гучны голас пратэсту з Усходу: Ратуйце Еўропу!» змясціла еўрапейская газета «Dispatch International» от 10.01.2013 г., а поўную рэдакцыю петыцыі падаў чытачам сайт амерыканскай кампаніі «Kontinent media group».

*Цяпер увазе чытачоў прапануецца поўная рэдакцыя Ліста, бо ён не страціў сваёй актуальнасці. Як і было спачатку задумана, петыцыя падаецца на беларускай, рускай і англійскай мовах.*

# *Адкрыты ліст*

# Старшыні Еўрапейскай Рады сп. **Херману Ван Рампёю***,

# Генеральнаму сакратару Рады Еўропы сп. **Турб'ерну Ягланду**

## Захаваем еўрапейскую цывілізацыю!

Дадзеная петыцыя ўтрымлівае крытычны аналіз некаторых тэндэнцый у развязанні лёсавызначальных нацыянальных пытанняў і прадугледжвае падтрымку Еўрапейскага Звяза. Адначасова гэта і зварот да палітычнай і культурнай эліты з прапановай адкрыцця **Музея гісторыі і культуры Еўропы**. Еўрапейская цывілізацыя на працягу тысячагоддзяў з'яўляецца ў пэўным сэнсе эталонам чалавечага развіцця, духоўнага і сацыяльнага прагрэсу. Музей Еўропы павінен стаць важнейшым сродкам захавання культурнай памяці еўрапейцаў.

## Абгрунтаванне петыцыі

Дух міру і прынцыпы ўсебаковага супрацоўніцтва леглі ў аснову міжнацыянальнага і міждзяржаўнага ўтварэння «Еўрапейскі Звяз». Еўропа ўдосталь зведала вышыні творчага ўзлёту, падзення і адраджэння чалавечага духу пасля шматлікіх лакальных і дзвюх сусветных войнаў. Аб'яднанне еўрапейскіх народаў – новая сацыяльная рэальнасць, якая адкрывае перспектывы далейшага чалавечага развіцця. Тым не менш на працягу 20 гадоў інтэграцыйнай дзейнасці Еўрапейскага Звяза культурная і духоўная дэградацыя на кантыненце не спыняецца, а наадварот, спакваля ўзрастае. Ёсць і іншыя выклікі, пакуль недастаткова ўсвядомленыя. Шведская журналістка Інгрыд Карлквіст (Ingrid Carlqvist) выступіла ў ліпені 2012 года ў Еўрапейскім парламенце з аповедам пра нечаканыя-неспадзяваныя змены ў сваёй краіне (http://vseobislame.livejournal.com/200800.html): Швецыя, паводле ейных словаў, раней *«была*

* З 30 жніўня 2014 года пасаду старшыні Еўрапейскай Рады займае Дональд Туск.

*самым бяспечным месцам і сімвалам прагрэсу ў свеце»*, *«аднародным грамадствам»*, а цяпер стала краінай вынішчэння этнічнай культуры ды гвалту над жанчынай, і *«палітыкі з усіх бакоў, і правыя і левыя, пачалі казаць нам, што няма такога панятку, як шведская культура, шведскія традыцыі варта адмяніць, і што мы, шведы, павінны быць удзячныя, што гэтак шмат людзей з рэальнымі культурай і традыцыямі прыехалі да нас»*. Гвалтоўна знішчаецца ідэнтычнасць еўрапейскай цывілізацыі, што якраз і ўстрывожыла спадарыню Інгрыд.

Асэнсоўваючы сітуацыю з ўсіх бакоў, яна называе сваю краіну **Абсурдыстанам**. Падобных з'яваў і фактаў цяпер на еўрапейскім кантыненце шмат. Ніяк няможна ігнараваць і эксцэс з нарвежцам Андэрсам Брэйвікам (Anders Breivik), ягоныя тлумачэнні матываў учыненага злачынства.

У Еўрапейскім Звязе ў адпаведнасці з палітыкай лібералізацыі сталі шырока вядомымі *еўрапейскія стандарты*. Праз *Усходняе партнёрства* яны настойліва прапагандуюцца і за межамі Еўразвяза. Але наколькі яны еўрапейскія, калі нічым не адрозніваюцца ад амерыканскіх? На наш погляд, панове, стандарты тут павінны быць іншыя – не для штатаў, а для еўрапейскіх нацыянальных тэрытарыяльных утварэнняў – суверэнных дзяржаў (калі стандарты наогул патрэбныя), іншымі павінны быць таксама задачы і мэты развіцця.

Пратэсты супраць хаосу, выкліканага пераніцоўкай традыцыйнага ладу жыцця, створанага стагоддзямі, нарастаюць. Занепакоеныя палітычныя лідары Германія, Францыя і Англія ў 2010–2011 гадах публічна прызналі, што еўрапейская палітыка мультыкультурнай супольнасці (утрымання мноства разнародных этнічных элементаў у адзіным соцыуме) правалілася. Генеральны сакратар Рады Еўропы Турб'ерн Ягланд даручыў групе дыпламатаў і палітыкаў падрыхтаваць даклад аб прычынах нецярпімасці і дыскрымінацыі ў Еўропе і зрабіць высновы. Групу ўзначаліў сп. Ёшка Фішар. І вось гэтыя мудрацы (прынамсі, неяк так іх празвалі), не пазбаўляючыся кайданоў сваіх стандартаў, склалі і падалі Радзе міністраў Рады Еўропы 11 траўня 2012 года даклад **«Жыць разам у Еўропе XXI века ва ўмовах свабоды і разнастайнасці»**. Фармулёўка гучыць прыгожа, але ж, калі па сутнасці, у дакуменце па-новаму наладжана абарона мультыкультуралізму і таго напру-

